# Нашы юбіляры



## АЛЯКСАНДР ГЕНАДЗЬЕВІЧ КАХАНОЎСКІ



24 ліпеня адзначыў 50-гадовы юбілей гісторык, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу, намеснік дэкана гістарычнага факультэта Аляксандр Генадзьевіч Каханоўскі.

А. Г. Каханоўскі нарадзіўся ў 1963 г. у г. Маладзечна ў сям'і вядомага беларускага гісторыка і краязнаўца Генадзія Аляксандравіча Каханоўскага. Ужо юнаком, падчас навучання, Аляксандр Генадзьевіч праяўляў цікавасць да гістарычных ведаў, свае мастацкія і творчыя здольнасці, якія ў далейшым скіраваліся на даследчыцкую працу ў галіне беларускай гісторыі.

Пасля заканчэння з адзнакай у 1985 г. гістарычнага факультэта БДУ А. Г. Каханоўскі паступае ў аспірантуру, дзе ў 1989 г. пад кіраўніцтвам выдатных спецыялістаў-гісторыкаў І. М. Ігнаценкі і Л. І. Бародкіна абараняе кандыдацкую дысертацыю на тэму «Сацыяльна-класавая структура народанасельніцтва Беларусі ў другой палове XIX ст.». З 1988 г. Аляксандр Генадзьевіч – навуковы супрацоўнік універсітэта, актыўна займаецца навуковымі даследаваннямі, становіцца адным з наватараў, хто пачаў укараняць і выкарыстоўваць кампьютарныя тэхналогіі ў даследчым і адукацыйным працэсе на гістарычным факультэце БДУ.

У 1990 г. Аляксандр Генадзьевіч узначаліў Навукова-даследчую лабараторыю гісторыі Беларусі, дзе праявіліся яго арганізатарскія здольнасці, уменне працаваць у калектыве. З 1992 г. ён працуе дацэнтам кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу, а ў 1994 г. абраны на пасаду намесніка дэкана гістарычнага факультэта БДУ па навуковай рабоце. У 1999 г. А. Г. Каханоўскі таксама абраны загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу.

За гады кіравання кафедрай Аляксандру Генадзьевічу ўдалося не толькі захаваць яе калектыў, але і папоўніць яго выдатным прафесарскім складам, плеядай маладых даследчыкаў. Намаганнямі А. Г. Каханоўскага на кафедры склалася школа сацыяльнай гісторыі Беларусі XIX–XX стст. Пад яго кіраўніцтвам кафедра займаецца вучэбнай работай, забяспечвае выкладанне шэрагу курсаў на большасці факультэтаў універсітэта, рыхтуе кадры для акадэмічнай і ўніверсітэцкай навукі ў магістратуры і аспірантуры, рэцэнзуе навуковыя даследаванні, кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, працы і падручнікі па гісторыі Беларусі, рыхтуе матэрыялы і экспертныя ацэнкі на запыты міністэрстваў і ведамстваў краіны. На кафедры выконваецца шэраг навуковых праектаў і тэм.

Акрамя службовых абавязкаў А. Г. Каханоўскі актыўна займацца і навуковай дзейнасцю. У першую чаргу ён вядомы як даследчык сацыяльнай гісторыі Беларусі XIX–XX стст., аўтар падручнікаў і дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, амаль 150 навуковых артыкулаў, суаўтар шэрагу калектыўных манаграфій і энцыклапедычных выданняў, навукова-метадычных прац,

заснавальнік школы сацыяльнай гісторыі Беларусі ў БДУ. За апошнія гады пад кіраўніцтвам А. Г. Кахаиоўскага было абаронена пяць кандыдацкіх дысертацый. Праца Аляксандра Генадзьевіча ў навуковай і вучэбнай сферах адзначана шэрагам узнагарод універсітэта, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

У паўсядзённым жыцці Аляксандр Генадзьевіч – адкрыты і добразычлівы чалавек, справядлівы і ўважлівы ў адносінах да калег і студэнтаў, добры сем’янін, выхоўвае сына і дачку.

Калегі і сябры шчыра віншуюць Аляксандра Генадзьевіча і жадаюць здароўя, шчасця, натхнення і новых дасягненняў на ніве гістарычнай навукі і ў педагагічнай працы.

***У. К. Коршук,***
доктар гістарычных навук, прафесар
***П. І. Зялінскі,***
доктар гістарычных навук, прафесар
***В. С. Макарэвіч,***
кандыдат гістарычных навук, дацэнт
***Ю. Л. Казакоў,***
кандыдат гістарычных навук, дацэнт
***А. А. Прохараў,***
кандыдат гістарычных навук, дацэнт